*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 39(95) ◈ 30 верасня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

*ЗА ЗАСЛУГІ Ў РАЗВІЦЦІ БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ПАЭТУ РЫГОРУ ІВАНАВІЧУ БАРАДУЛІНУ Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысвоена ганаровае званне «Народны паэт Беларусі». Віншуем паэта з высокім званнем і жадаем далейшых поспехаў у творчасці.*

*ПАД СТАРШЫНСТВАМ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Былі прыняты пастановы «Аб назначэнні суддзяў эканамічнага суда Садружнасці Незалежных Дзяржаў», «Аб ваенных судах і пытаннях рэарганізацыі ваеннай пракуратуры», «Аб звароце Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь да грамадзян Рэспублікі Беларусь у сувязі з аб'яўленнем 1 кастрычніка Днём пажылых людзей» і іншыя.*

ПРАЙШЛО ЎРАЧЫСТАЕ СВЯТКАВАННЕ 1000-ГОДДЗЯ ХРЫСЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ.

*У МЕНСКІМ ПАЛАЦЫ МАСТАЦТВАЎ АДБЫЛАСЯ ПАШЫРАНАЯ СОЙМАВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ БНФ СУМЕСНАЯ З БЕЛАРУСКІМ ЗГУРТАВАННЕМ ВАЙСКОЎЦАЎ І ДЭМАКРАТЫЧНЫМІ ПАРТЫЯМІ КРАІНЫ на тэму «Праблемы беларускага войска». Былі разгледжаны элементы канцэпцыі вайсковай рэформы, прычыны і шляхі спынення карупцыі ў войску, сістэма сацыяльнай аховы вайскоўцаў Беларусі, пытанні вяртання афіцэраў-беларусаў на Радзіму і іншыя.*

БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРЫ ЎСТАНАВІЎ СТЫПЕНДЫЮ ІМЯ УЛАДЗІСЛАВА ГАЛУБКА. Першым уладальнікам гэтай штомесячнай тысячарублёвай стыпендыі стаў артыст Краснапольскага раённага Дома культуры Юрый Мотрычаў.

# АМЕРЫКАНСКІ ПАСОЛ ПРЫНЯЎ ПРЫСЯГУ

Будучы сведкам падзеі, хачу расказаць, як у дзень першай гадавіны абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь новапрызначаны пасол для Беларусі прыняў прысягу і гэтым самым афіцыйна стаў першым найвышэйшым прадстаўніком Злучаных Штатаў Амерыкі на нашай Бацькаўшчыне.

Прынясце прысягі адбылося ў шыкоўнай залі Бэнджаміна Франкліна ў Дзяржаўным Дэпартамэнце ў Вашынгтоне. На ўрачыстасці прысутнічалі амэрыканскія дыпламаты, прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу ў Вашынгтоне, супрацоўнікі Дзяржаўнага Дэпартамэнту, блізкія сваякі Дэвіда Суорца. Рэспубліку Беларусь прадстаўляў беларускі консул у Вашынгтоне Міхаіл Хвастоў, намеснік часовага паверанага ў справах Беларусі ў ЗША. Ад беларусаў Амэрыкі на сапраўды гістарычную ўрачыстасць быў запрошаны аўтар гэтых радкоў як старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэта Амэрыкі і спадарыня Іраіда Завістовіч.

У сваіх прамовах сп. Суорц і ягоны колішні непасрэдны начальнік Шэрман Франк вельмі цёпла гаварылі пра Беларусь (варта адзначыць, што новы пасол перад яго зацверджаннем у сэнацкім камітэце па замежных справах некалькі месяцаў працаваў у Менску часова паверанім у справах ЗША на Беларусі), беларускі народ і пра тыя павольныя, але канкрэтныя крокі, якія Беларусь робіць у галіне раззбраення і дэмакратызацыі грамадства.

Спадар Суорц належыць да прафесійных дыпляматаў. Ён тры гады працаваў у амэрыканскім пасольстве ў Маскве, тры з палавінай гады ў Варшаве і два гады ў Кіеве. А перад тым быў дэканам Інстытута замежных моваў пры Дзяржаўным Дэпартамэнце. Ведае расейскую, польскую і ўкраінскую мовы, а цяпер спадзяецца авалодаць і беларускай. У яго двое дарослых дзяцей — сын і дачка. Спадарыня Суорц, якая зрабіла на ўсіх вельмі мілае ўражанне, з'яўляецца святаром мэтадысцкае царквы.

Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ.

Форт Вашынгтон, ЗША.

*Ідзе падпіска*

## Беларускасць пашыраецца ў войску

«Наша слова» не аднойчы згадвала пра працэсы беларусізацыі ў вайсковых калектывах. Шмат дзе ўжо створаны асяродкі роднага слова. Яны закладзены пры падтрымцы ўстаноў беларускай культуры, беларускага друку.

Возьмем для прыкладу калектыў рэдакцыі газеты Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь «Во славу Родины». Ад нумара ў нумар на яе старонках павялічваецца колькасць матэрыялаў, якія друкуюцца на беларускай мове.

А падчас сёлетняй падпісной кампаніі многія супрацоўнікі рэдакцыі вайсковай газеты вырашылі стаць чытачамі «Нашага слова».

А. К.








Дзень беларускай вайсковай славы адсвяткавалі на плошчы Незалежнасці ў Менску.

На ініцыятыве БНФ і БЗВ вайскоўцы Беларусі, афіцэры запасу прымалі прысягу на вернасць свайму народу, сваёй Радзіме. Удзел у гэтым сімвалічным акце прынялі і народныя дэпутаты, усе, хто неабыякавы да лёсу Беларусі.

**На здымках: ля мікрафона — лідэр БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч; выступае Васіль Быкаў; адно са злабадзённых патрабаванняў.**

**Фота Лявона ДУБАНЕВІЧА.**

**У МЕНСКУ ПРАХОДЗЯЦЬ ДНІ БАЛГАРСКАЙ КУЛЬТУРЫ.** Дэлегацыю Балгарыі ўзначальвае прафесар З. Захарыеў — старшыня Федэрацыі дружбы і Фонду «Славяне». Мерапрыемствы, звязаныя з Днямі Балгарыі, праводзяцца таксама ў Полацку і Магілёве.

# Каму — роднае, а каму — чужое

Нядаўна я наведаў Вішнева, што на Валожыншчыне. Усклаў кветкі на магілы Канстанцыі Буйло, Пятра Бітэля і вырашыў пабачыцца з мясцовым ксяндзом айцом Уладзіславам, бо ведаў, што ён не толькі выдатна ведае гісторыю свайго краю, але і вядзе ў касцёле набажэнства на роднай беларускай мове. Сустрэў і прыняў мяне спадар Уладзіслаў у сваёй старэнькай хаце ветліва і прыязна, адразу павёў паказваць сваю бібліятэку. Вочы мае разбегліся ад здзіўлення, бо на паліцах — кнігі часоў Вялікага княства Літоўскага, дарэвалюцыйныя і заходнебеларускія выданні дзеячоў беларускай літаратуры і культуры, а на самым першым месцы кнігі нашых класікаў, поўныя зборы іх твораў розных гадоў выдання. У Вішневе хата айца Уладзіслава з яго багатай бібліятэкай зрабілася асяродкам культурнага жыцця, бо ксёндз не толькі ахвотна дазваляе сваім землякам ёю карыстацца, але і распаўсюджвае сярод прыхаджан свае беларускія малітоўнікі. Ён імкнецца наблізіць набажэнства да роднай мовы беларусаў.

Вярнуўся дамоў у Маладзечна і на другі дзень наведаў нашую цэнтральную гарадскую бібліятэку. Пачаў звяртацца па справе то да адной, то да другой бібліятэкаркі па беларускай мове. І кожны раз чуў: «Чево?» Міжволі падумаў, што трапіў не ў беларускую бібліятэку, а ў бібліятэку якой-небудзь Самары ці Яраслаўля. Знаходжу паліцу, дзе павінен стаяць збор твораў Янкі Купалы. Няма яго. Ёсць, праўда, збор твораў, але на расійскай мове. Ну, што тут скажаш!

Кажу ўжо новай бібліятэкарцы «па-простаму», што мне трэба адпаведны нумар «Полымя». «Как, как вы сказали? Журнал «Пламя» нужен?» «Не «Пламя», а «Полымя»», тлумачу ёй. «А какая разница», адказала яна, ідучы ў кнігасховішча. Каментарыі тут, відаць, не патрэбны, бо пра тое, што ў Маладзечне не шануюць беларускае слова, беларускую літаратуру, гаварыць не даводзіцца. Здзіўляе большае: поўная абыякавасць, абсалютны нігілізм увогуле да ўсяго беларускага.

З невясёлымі думкамі выходзіў я з бібліятэкі. І раптам падумалася: няхай бы дырэктар бібліятэкі арганізавала сярод сваіх работнікаў курсы «лікбезу» на вывучэнні беларускай мовы і літаратуры, запрасіла на іх выкладаць гэтыя прадметы айца Уладзіслава. Толькі ксяндзу, перш чым заняцца гэтай пачэснай і карыснай справай, трэба будзе перахрысціць бібліятэчных работнікаў у беларускую веру. Але яны гэтага сабе не дазволяць. Для іх роднае — чужое. А цяпер скажыце: ці могуць працаваць ва ўстановах беларускай культуры такія, з дазволу, работнікі?

**М. КАПЫЛОВІЧ.**
г. Маладзечна.

# УРОК БЕЛАРУСКАСЦІ ЯНА ЗАПРУДНІКА

Мая сустрэча з земляком, беларусам з Амерыкі Янам Запруднікам, адбылася ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. Тое, аб чым мы за штодзённай мітуснёй так мала дбаем, для нашага госця — найгалоўнейшы клопат на свеце. Нацыянальнае адраджэнне беларусаў — у цэнтры ўсіх яго спраў і сувязей з людзьмі.

Вось некалькі фрагментаў з нашай гаворкі:

### ШТО ПАДАРЫЦЬ АМЕРЫКАНСКАМУ ПРЭЗІДЭНТУ?

Адна з мэтаў (няхай сабе і не галоўная) візіту Яна Запрудніка на Беларусь — пошук падарунка для амерыканскага прэзідэнта. Справа ў тым, што дэлегацыя беларускіх эмігрантаў рыхтуецца да сустрэчы з ім. І нашы землякі, навучаныя цывілізаваным светам, дбаюць не толькі аб тым, што сказаць, але і клапоцяцца пра тое, што падарыць.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка прапанаваў падарыць сувенір накшталт слуцкага пояса. У зале ж Акадэміі навук, дзе праходзіла сустрэча з Я. Запруднікам, ён пачуў і такую прапанову: дадаць да сувеніра бутэлечку «Белавежскай». Госця з Амерыкі гэта крыху пакрыўдзіла, і ён прывёў словы другога земляка-эмігранта, што нядаўна вярнуўся з паездкі на Бацькаўшчыну: «Янічка, як яны будуць так надалей піць, то Беларусі... ніколі не пабудуюць...»

І ўсё ж — пра найбольш важнае. Як можа палітычная дзейнасць эміграцыі паўплываць на адносіны ЗША і Беларусі? Са слоў Я. Запрудніка яшчэ раз давялося ўпэўніцца, як мала ведае пра нас свет!

Вось і важкі клопат для эміграцыі — ствараць пра Беларусь вартасную грамадскую думку, даказаць прэзідэнту, усім простым амерыканцам, што ёсць на свеце такая дзяржава.

### ПАЖАР У НАШАЙ ДУХОЎНАЙ ХАЦЕ!

Часам за гаворкамі пра ўзровень патрыятызму мы вельмі далёка адыходзім ад рэчаіснасці. І як было прыемна за іншымі размовамі пачуць клопат земляка з-за акіяна пра штодзённую культуру, пра руплівасць, выхаванасць у малой і вялікай справе:

— Нацыянальная свядомасць мае дачыненне да чысціні на вуліцы... Трэба перажываць за неакуратна зробленую работу... Даць чалавеку імпульс быць адказным за горад... Гэтыя тэзісы, канешне ж, не новыя. Але мы на іх забываемся...

### «ХОЦЬ ТЫ І МОВУ ПАКІНУЎ, АЛЕ НЕ ПАМЕР...»

Пачуць такое ад прапагандыста, руплівца беларускасці на чужыне?! А як жа тады Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі»? Але ж давайце паслухаем Яна Запрудніка:

— Зараз перад намі стаіць праблема палітычна-культурнай лаяльнасці. Давайце будзем спрачацца, але ў цывілізаваных межах... Сёння фарміраваць дзяржаву павінен палітычны беларус. І нічога дрэннага ў закліку гэтым няма: «Хоць ты і мову пакінуў, але не памёр»... Трэба глядзець у будучыню... Беларусізацыя павінна выглядаць мірнай, дабрадзейнай...

* * *

Многія ідыёлагі пужаюць нас экстрэмізмам у дачыненні да працэсаў беларускага адраджэння. Але ж давайце паспрабуем пагадзіцца ў тым, што экстрэмізм — рыса зусім не нацыянальная (а хутчэй — шматнацыянальная). І аднолькава не ўспрымаючы экстрэмізм па абодва бакі аднае ракі, давайце ўсё ж дбаць пра дзяржаўна-нацыянальны суверэнітэт, пра разумную ролю ў яго ўсталяванні і роднай культуры, і роднай гісторыі, і роднай мовы, і, канешне ж, роднай, айчыннай эканомікі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА!

Мяне збянтэжыла і абурыла пазіцыя, якую заняла рэдакцыя, надрукаваўшы ў № 31 артыкул настаўніка Паўла Дубка «Якой быць нашай мове?» Яго аўтар палемізуе з Алегам Антонавічам Лойкам, які выказаў у друку думку, што нам «трэба вяртацца да двайнога напісання — лацінкай і кірыліцай». «Каму і для чаго патрэбны такія паралелі? — пытае настаўнік.— Навошта ствараць такі штучны і вялікі тормаз пашырэнню беларускай мовы сярод розных слаёў насельніцтва?»

Вядома, што на спустошанай зямлі можа расці толькі пустазелле. Каб не была задушана Беларуская Народная Рэспубліка, каб не была адменена на Беларусі бальшавікамі лацінка, каб не было наркамаўскай рэформы беларускай мовы, а пасля каб не была фізічна знішчана беларуская нацыянальна свядомая інтэлігенцыя і не адбывалася далейшая гвалтоўная русіфікацыя беларусаў, то ўсё было б натуральна на Беларусі: і лацінка, і кірыліца, і правапіс Тарашкевіча, не было б шматлікіх беларусаў-манкуртаў і «заступнікаў» беларускай мовы.

Мова — гэта душа народа. Скалечылі мову наркамаўскай рэформай і русіфікацыяй — скалечылі і свядомасць значнай часткі беларусаў.

А як разбуралася свядомасць беларусаў у працэсе знішчэння прыроды і архітэктурных помнікаў, калі толькі на працягу 1959—1961 гадоў (час хрушчоўскай барацьбы з рэлігіяй) на Беларусі было знішчана каля 200 цэркваў, касцёлаў, сінагог! Але што дзіўна, П. Дубок заяўляе: «Я размаўляў з многімі вучнямі, студэнтамі, людзьмі старэйшага ўзросту. Лацінкі не хоча ніхто! Поўнага пераходу на «тарашкевіцу» таксама». Ды гэта ж тое самае, што спытаць тых жа вучняў, ці будзеце есці папая? А потым патэтычна адказаць: папаі есці не хоча ніхто! Найперш трэба людзей назнаёміць з лацінкай, падрыхтаваць іх, растлумачыць, для чаго патрэбна лацінка, каб людзі мелі асабістае ўяўленне і ўласную думку наконт яе мэтазгоднасці.

Чытаючы газету «Наша слова» і «ЛіМ» бачыш, што за лацінку выступае тэхнічная беларуская інтэлігенцыя, якая добра разумее яе важнасць для прагрэсіўнага, дэмакратычнага развіцця Рэспублікі Беларусь. Калі правадыр дэмакратычнага руху ў Турцыі пасля Першай сусветнай вайны рашыў правесці прагрэсіўныя рэформы, то пачаў з уводу новага, лацінскага, шрыфту. Малдова з першых дзён абвяшчэння суверэнітэту рэспублікі адмяніла кірыліцу, навязаную бальшавікамі ў 1940 годзе, і ўвяла лацінскі алфавіт. Азербайджан таксама пераходзіць на лацінку. Нават у сярэднеазіяцкіх рэспубліках ідзе гаворка аб пераходзе на лацінку. А «Наша слова» на той жа старонцы ў артыкуле «Адпавядае ці не адпавядае» змяшчае прапанову замест лацінкі перайсці на глаголіцу. Ды гэта ж тое самае, спадары, што замест сталёвага плуга ўзяцца за саху. Беларуская мова пакуль што жывая мова, а значыць, яна развіваецца, фанетычны і лексічны склад ужо не той, што быў у X—XII стагоддзях, і глаголіца сучаснай мове проста не адпавядае.

Калі беларусы са сваёй адметнай культурай і мовай хочуць выжыць, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, увайсці ў склад супольнасці цывілізаваных еўрапейскіх народаў, то трэба глядзець у будучыню і паступова пераходзіць на лацінскі шрыфт. спачатку выпускаць газеты, часопісы, кнігі, а праз 1—2 гады і падручнікі для школ і ВНУ. І чым хутчэй адбудзецца пераход на лацінку, тым хутчэй беларусы адчуюць сваю нацыянальную годнасць і адродзяцца іх нацыянальная свядомасць.

Можна запытаць аўтараў падобных лістоў: чаму ж бальшавікі забаранілі на Беларусі лацінку, а ў сярэднеазіяцкіх рэспубліках арабскі алфавіт замянілі кірыліцай? Ці ж гэта не паказвае, якое псіхалагічнае значэнне мае шрыфт пры навучанні і выхаванні?

Вядома, пытанне лацінкі не тычыцца нацыянальных меншасцей, якія жывуць на Беларусі. Кожная меншасць для друкавання газет, часопісаў, падручнікаў для нацыянальных школ выбірае той шрыфт, які прыняты ў іх нацыянальных дзяржавах.

Настаўнік П. Дубок клапоціцца, каб не траціліся грошы на лацінку. Але ж друкаваць кнігі і газеты можна ў Вільні ці ў Празе, і на лацінку не пойдзе ні грошыка. Нават на канкурэнтнай аснове можна выйграць, бо надрукаваць можна танней, чым кірыліцай у Менску. Танней там, дзе вышэйшая тэхналогія друкарскіх станкоў, ды і машынкі з лацінскім шрыфтам каштуюць столькі ж, колькі з кірыліцкім шрыфтам. Але ж справа не ў гэтым! Грошы, якія пойдуць на падрыхтоўку шрыфта, дробязь у параўнанні з тымі сумамі, якія будуць узяты з кішэняў пенсіянераў, шматдзетных сем'яў, таго ж настаўніка П. Дубка з прычыны інфляцыі і манаполіі дзяржаўных карумпіраваных чыноўнікаў на сродкі вытворчасці.

І апошняе. Настаўнік сцвярджае: «Не трэба нам, беларусам, захапляцца лішнім рэфарматарствам!» Выходзіць, хай і надалей працягваецца русіфікацыя беларусаў, як ішла іх асіміляцыя, хай і надалей ідзе бяскроўная забойства беларускай нацыі. Вы ж, беларусы, народ ціплы, рахманы, талерантны, ну, вядома ж, яшчэ і працавіты. Працуйце на чыноўнікаў рознага рангу, якіх вам наслаў яшчэ «бацька народаў».

Гаворка павінна ісці не аб рэформе беларускай мовы і правапісу, а аб вяртанні ёй уласцівага вымаўлення і гучання, адмене так званай наркамаўскай рэформы, зняцця з яе таго калючага дроту, якім наша мова была прыцягнута да расійскай, каб яна магла свабодна жыць і развівацца пасля такога страшнага генацыду — фізічнага і духоўнага, учыненага бальшавікамі над беларускім народам.

Як можна пісаць, што «лацінкі не хоча ніхто», калі яна была пад забаронай, і ніводнага выдання па Беларусі на лацінцы не выходзіла, а ў Менску не засталося ніводнай беларускамоўнай школы. Цалкам згодзен з артыкулам прафесара Яўгена Шыраева «Крытычная сітуацыя — радыкальныя меры» («ЛіМ», № 32), што для выпраўлення моўнай сітуацыі на Беларусі патрэбна ў бліжэйшы час прыняць радыкальныя меры.

**Мікола СЛАЎЯНАЎ,**
**настаўнік-пенсіянер**




*Рубрыку вядзе*

***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

У канцы шаснаццатага — пачатку семнаццатага стагоддзяў англійская і ўся еўрапейская паэзія ўзбагацілася творамі яшчэ некалькіх выдатных лірыкаў, сярод якіх асаблівае месца належыць Джону Дону (1572—1631) і Бену Джонсану (1572—1637).

*Джон ДОН*

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ

Цікава, што рабілі мы з Табой,
Пакуль не пакахаліся? Ці нас
Каля грудзей трымалі, аж да той
Хвіліны, й мы жывіліся ўвесь час
Прыроды пекнатой? Ці мы ўдваіх
Не кашлялі ў пячорах? І штоміг
Адно краса Твая — у мроях у маіх.

«Дзень добры!» — павітаем душы зноў
Абуджаныя нашы; іх пагляд
Цудлівы вечна. Ну, а ў нас — любоў,
Што ўвесь сусвет скарала — так няшмат...
Хай будзе слаўны мараходаў чын —
Адкрыцці новых светаў ды краін,
Ды свет хай будзе ў нас з табой адзін.

Адбіліся ў вачах твар мой і Твой:
Праменяць шчырасць светлую адну...
Дзе лепшы свет — без Поўначы ліхой,
Без Заходу, што хіліцца да сну?
Каханне нашае з табой даўно
Злучылася, злілося у адно —
І не аслабне, не памрэ яно.

*Бен ДЖОНСАН*

## ДА СЭЛІІ

Вачыма выпі за мяне —
Свае аддам да дна:
За след на шкле ад губ Тваіх
Не трэба мне віна.
Душа сасмяглая гарыць:
Дзе ж боскі той напой?
Не, трунак Зеўса-ўладара
Смакуе горш за Твой.

Табе паслаў я руж букет
З надзеяю на плён:
Што як яго не прымеш ты —
Усё ж не завяне ён.
Ты адаслала мне назад
Букет цудоўны той,
А ён — клянуся — ўсё цвіце
Дзеля Цябе адной!

**Пераклад з англійскай Лявона Баршчэўскага.**

Міхась БЕРНАТ

в. Русіны Баранавіцкага раёна

# «Слава Воршы ўжо ня горша!»

**Гэты верш змешчаны ў адной старой кніжцы, якую я маю. Назва яе невядомая, бо вокладка адсутнічае.**

**Верш, хутчэй за ўсё, адносіцца да фальклорнай спадчыны. Памяць народа, як бачна з гэтых радкоў, данесла сваім нашчадкам радасць перамогі над захопнікамі, якія ў той час, акрыяўшы ад мангольскага ярма, пачалі рыхтаваць няволю нам, беларусам. Але былі бітыя пад Оршаю ў верасні 1514 года. У гэтай бітве нашы прашчуры адстаялі волю і незалежнасць Бацькаўшчыны. За што і ўслаўляў іх наш народ. У змесце, насупраць назвы гэтага верша пазначана, што ён узяты са збораў В. Ластоўскага.**

Ой, ў нядзельку параненьку
Узышло сонейка хмарненька.
Узышло сонейка над борам,
На-над Селецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць
Да ваяцкае рады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы дабываці;
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі!
А ў нядзелю параненьку
Сталі хлопцы-пятыгорцы
Каля рэчкі на прыгорцы;
Гучаць раз з самапалаў,
З сяміплядых ад запалаў.
Б'юць паўсоткаю з гарматаў...
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці;
А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку дужа праклiналі:
«Бадай ты, рэчка, сто лет высахла,
Як наша слава тутка прыпала,
Бадай высахла да скaнчэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету!»
Слава Воршы ўжо ня горша,
Слаўся, пан Астрожскі!

*Мікола АЎРАМЧЫК*

# Дочкам

Каб знаў я,
Што вас будзе трое,—
У наслядоўнасці любой
Даў кожнай бы
Імя другое:
Надзея, Вера і Любоў.

На вас надзея
І ў вас вера,
Любоў да вас,
А не да іх,
Кіраўнікоў-функцыянераў
І крывадушнікаў ліхіх,
Якія прадвяшчалі новы
Лад і парадак навакол
І выганялі нашу мову
З дзіцячых садзікаў і школ.

Яны ўхітрыліся злаўчыцца
Так скіраваць хаду падзей,
Што пахавалі як злачынцу
Купалу ўпотай ад людзей.

А я хацеў,
Каб ён і Колас
Між вас жылі з гадоў малых,
Таму вас перавёў у школу,
Дзе слова іх гучала ўслых.

Таму штодзённа з малалецтва
Да іх магіл прыводзіў вас,
Як з магілкамі па суседству
Жылі мы ў доме доўгі час.

І я хачу,
Каб вашы дзеці
Таксама ведалі,
Дзе ён,
І дбайна зберaглі ў свеце
Свайго народу пантэон.

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг.*

*Пачатак у №№ 5—38).*

— Я зусім не раздзяляю ягоны аптымізм — у тым плане, што лёгка будзе вывучаць другія мовы... Але сваю родную — нават праз некальκі пакаленняў, калі яна застанецца толькі на бумазе, — яе лягчэй будзе вывучыць, чым іншыя мовы... Таму ў яе — бліскучая будучыня... Яна яшчэ будзе доўга жыць — нават калі будзе адзін агульны я з ы к... Я толькі адвяргаю яго думку, што мовы будзе лёгка вывучаць...

Замежная мова — гэта заўсёды іншародны прадмет у нашым целе, ён не можа адчуваць сябе зручна — у нашым арганізме... Калі ты, скажам, у Францыі, ты можаш карыстацца французскай мовай, але... нейкая «тканінкавая несумяшчальнасць» тут усё ж такі існуе...

Родная мова, нават калі на ёй ніхто не будзе гаварыць, будзе жыць яшчэ вельмі доўга...

Я спрабаваў вучыць дачку французскай мове (мы з жонкай размаўляем)... Але французская не ўкараняецца... А беларускія словы — запамінае вельмі хутка і карыстаецца імі...

Я думаю, што калі ёсць нейкія градацыі («мова — кроў культуры» — група «А», група «Б» і г. д.),— найбольш неабходнай групай крыві была б родная мова...

(— Генетычна?..)

— Мо і так...

... Барадулін...

...Якасць гэтага верша сведчыць аб тым, што ў беларускай мове ёсць будучыня, што яна развіваецца, што яна будзе развівацца... Беларуская мова, вядома, не «перажытак»... Гэта сапраўды — кроў культуры...

Менавіта я к а с ц ь гэтага верша даказвае яе жыццяздольнасць, усяляе ў нас аптымізм.

Я згодзен і з думкай, што яна будзе ўзбагачаць і сусветную культуру. Тут многае будзе залежаць ад таго, які ўклад будуць уносіць у сусветную культуру нашы пісьменнікі, якое месца іх творы будут займаць у сусветнай культуры...

... Танк...

— ... У якасці спадчыны яна будзе існаваць заўсёды...

... Караткевіч...

— ... А што канкрэтна прапануюць нашы літаратары — каб гэтую мову нельга было «абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць»?.. Што канкрэтна зрабіць, каб гэтыя вершы гучалі не толькі дэкларатыўна? Што канкрэтна вы — філосафы — прапануеце, каб абараніць мову?..

Мо шырокі міжнародны культурны абмен будзе спрыяць больш шырокаму распаўсюджванню і развіццю гэтай мовы?..

**(Каля 40 гадоў, беларус, палітолаг)**

От белорусского языка я был оторван много лет... Последнее крупное общение — мой школьный учитель... Но я, в течение ряда лет, был единственным подписчиком газеты «Звязда» в Индии. Сейчас я, может быть, выписал бы «Полымя», но тогда мне просто хотелось иметь конкретную информацию о республике — плюс язык... Хотя не тебе мне говорить о языке этой газеты...

Мне приходилось общаться и за границей с представителями нашей литературы. М. Л. в ответ на мой вопрос говорил, что, строго говоря, в Белоруссии существует только деревенская белорусская литература. В городе белорусская литература — это большая натяжка.

Литература вырастает на какой-то основе. Если в городе нет — если не говорящей, то хотя бы читающей массы — то о какой литературе может идти речь?..

В ответе эта примитивность была подчёркнута...

История культуры, языков пока не даёт ответа на вопрос — где закономерность их развития, подъёма и упадка?.. Когда говорят о причинах, которые привели к попытке уничтожения белорусского языка как языка нации, то они очевидны... Но являются ли эти вещи закономерностями?..

Этот ответ меня в большой степени удовлетворил. Далеко не всегда вопрос о языке сводится к простой альтернативе: говорят все на этом языке или нет? Это ещё отнюдь не показатель уровня культуры этого языка...

Я сам, сидя в Париже, гораздо больше читал по-белорусски, чем когда вернулся сюда... Разве когда что-нибудь нашумит...

Возьмём хотя бы Быкова... Я слышал от весьма влиятельных в белорусской литературе людей жёстко негативные отзывы о нём. Сейчас бы они не звучали — но это относится ко временам 10-летней давности. И это критиковали за то, что он пишет «на грязном белорусском языке», который даже не заслуживает того, чтобы белорусским языком называться...

Белорусский ли он писатель?.. Пишет ли он на национальной основе?.. Думаю, что это так. Я считаю, что по-белорусски он звучит сильнее, чем по-русски — даже в авторском переводе. Я чувствую, что оригинал — белорусский. Хотя многие считают, что он — писатель общечеловеческий, и оригинально белорусского в нём ничего не находят...

Я не знаю, клевали ли когда-нибудь Чингиза Айтматова — за то, что он пишет не на очень чистом киргизском языке... В Индии он однажды сказал, что настоящая литература — это та, которая, будучи национальной, исходя из национальной почвы, способна подняться до уровня общечеловеческого. Тут совершенно очевидна национальная основа — и общечеловеческий уровень культуры. Я представляю, как это читается на национальном языке, если это на русском так воспринимается...

Я много занимался практикой продвижения если не самой белорусской культуры, то, во всяком случае, знания о белорусской культуре за границей. Я опять могу быть неправым, но я столкнулся с какой-то неосознанностью среди деятелей белорусской культуры или даже с отсутствием гордости за свою культуру, которой нельзя не поделиться с миром... Часто это доходит до наплевательства: ему гораздо важнее, чтобы его вещь была опубликована дома (большим тиражом, с соответствующими выплатами), чем она была бы переведена и опубликована где-то за границей... Наши деятели (культуры и... вообще...) недооценивают, что значат для культуры её международные связи, контакты...

Сегодня во Франции изучаются все славянские культуры и языки, — включая лужицких сербов, — с единственным исключением — белорусской культуры и языка.

*(Працяг будзе).*

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—38).*

— Прашу цябе, Холідэй,— пачаў я ўжо спакойна.— Трэба паслухаць запіс. Залезем у шафу, і Джынкс ціха прайграе. Давай,— сказаў я Джынксу.

Мы ўціснуліся ў вузенькую шафу. Джынкс уключыў апарат...

Запісалася ўсё, за выняткам таго месца, калі інспектар пытаўся пра аб'ект замаху...

— Цудоўна! — сказаў я.— Усё, як было, слова ў слова...

— А гэтае месца, дзе ён пытаўся, што мы збіраемся браць? — заўважыў Джынкс.

— Паглядзіш на інспектара, калі ён паслухае гэты дыск,— усміхнуўся я.— Наўрад ці ён прыкмеціць, што гэтага месца няма...

Холідэй выйшла з шафы, я пайшоў услед і прапанаваў ёй цыгарэту. Калі я яе запальваў, вочы ў Холідэй былі апушчаныя, позірк скіраваны на агеньчык.

— Спадзяюся,— сказаў я,— што, праслухаўшы запіс, ты пачуваешся лепей.— Яна не адказала.— Але бачу, ён цябе не надта ўразіў.

— Зусім не ўразіў.

— Нішто сабе! — узарваўся я.— Зараз мы можам пляваць на ўвесь свет, а ты... што ж трэба зрабіць, каб ты была задаволеная?!

— Дазволіць ёй кіраваць усім па ейным разуменні,— сказаў Джынкс, выйшаўшы да нас.— Сама меней.

Яна са злосцю зірнула на яго, але нічога не сказала.

— Ты што, зайздросціш, што гэта я прыдумаў гэты ход? — запытаўся я.

— Не будзь ідыётам.

— Усе гэтыя гамонкі ні да чаго нас не прывядуць,— прабурчаў Джынкс.

— Яна не можа адчуць мяне,— сказаў я.— Яна ніколі не магла адчуць мяне, з той самай хвіліны, як убачыла мяне ўпершыню. Яна і згадзілася, каб я бег з Тока, толькі таму, што не было нікога іншага...

— Ва ўсякім разе, я не так блага дзейнічала, як ты цяпер, калі выцягвала цябе з гэтай смярдзючай турмы,— адказала яна, крыху прыўзняўшыся.

— Перад усім, трэба сказаць, што ты не пра мяне клапацілася. Ты хацела вызваліць свайго брата. А ўрэшце ўсё выйшла так, што яго забілі. Няблага ты дзейнічала.

Яна ступіла крок уперад і застыла ля мяне. Вочы ў яе палалі агнём, твар быў скажоны шалам.

— Паслухай,— сказаў Джынкс, кладучы сваю руку на ейную.

Адным рыўком пляча Холідэй вызвалілася.

— Гэта ты паслухай! — закрычала яна.— Гэты недавярак чокнуты! Разам са сваім звышрозумам, дыпломам і са сваёй універсітэцкай ступенню. Усё гэта, можа быць, дазваляе яму пагарджаць намі, але зусім не дае яму права рызыкаваць нашай скураю, тваёй і маёй, са сваімі вар'яцкімі ідэямі. Калі мы згодзімся з імі, тады, клянуся, мы заслугоўваем таго, каб памерці!..

— Вар'яцкімі ідэямі?— абараў я яе.— Што ты маеш на ўвазе? Запіс размовы?

— Ён самы...

— У гэтай задуме няма нічога бессэнсоўнага,— прадоўжыў я, звяртаючыся да Холідэй.— Яна нават ні арыгінальная, ні надта разумная. Танная, можна сказаць, ідэя...

— Фігня ўсё гэта,— абсекла яна.— Ты ўсё яшчэ думаеш, што я буду гуляць з табою ў гэтую камедыю? Ты кажаш гучныя словы. Але гэта ні на каліва не змяншае жахлівую рызыку, якой ты нас падвяргаеш. Гэта магло прайсці ў крайнім выпадку з якім-небудзь зялёным пачаткоўцам, а ты забаўляешся з галоўным інспектарам.

— Божа мой! — усклікнуў я.— Ты ніяк не можаш уцяміць, што гэтая ідэя толькі таму і добрая, што наш чалавечак — менавіта галоўны інспектар! Які нам быў бы сэнс ставіць на вушы простага паліцэйскага? Як можна шантажыраваць недалугу, якому няма чаго губляць?

— А ты, ты можаш уцяміць, што твая ідэя рызыкоўная менавіта таму, што ён — галоўны інспектар?

— Але чаму, дзяўчачка?!

— Ты запісаў гаворку, каб ён гэты запіс праслухаў, ці ж не так? А як ты думаеш, што ён зробіць, праслухаўшы яго?

— Будзе выконваць мае загады.

— А што яму перашкодзіць прыкончыць нас і забраць дыск? Гэта інспектар — ён выкруціцца.

Збянтэжаны, я глядзеў на яе, вытрашчыўшы вочы.

«Няўжо я навечна асуджаны натыкацца на сцяну дурасці?»

— Растлумач ёй ты,— сказаў я Джынксу.— Богам прашу, растлумач...

— Дыск, які ён праслухае, будзе толькі копіяй. І не адзінай. Мы зробім дзве копіі,— растлумачыў Джынкс.

— Спадзяюся, нарэшце ты зразумела?— усміхнуўся я.— Як ты думаеш, навошта мы прынеслі сюды фанограф? Каб прайграць фугі Баха? Мы паставім на фанограф дыск, які ты слухала, прайграем яго і паставім побач мікрафон, каб запісаць другі і трэці раз...

— Ну хопіць, хопіць,— сказаў Джынкс.— Яна ўжо ўсё зразумела.

— Яна магла б зразумець адразу ж, без маіх тлумачэнняў,— не мог супакоіцца я.— Мы ж не ў дзіцячым садку!

Холідэй з'едліва зірнула на мяне. Потым павольна паставіла цыгарэту на кончык вялікага пальца правай рукі і сабралася шчоўкнуць па ім указальным пальцам левай — тады цыгарэта паляцела б мне ў твар. Я спакойна глядзеў ёй у вочы.

«Паспрабуй толькі гэта зрабіць,— сказаў я сабе,— і я цябе прыкончу, клянуся перад Богам».

— Зрабі нам кавы, Холідэй,— спакойна сказаў Джынкс.

Нейкі момант яна вагалася, потым сунула цыгарэту ў вусны і выйшла.

— Чаму ты сказаў Уэбэру, што ты не ведаеш, калі зможаш знайсці мяне? — спытаўся ў мяне Джынкс.

— Таму што мне трэба паспець перапраавіць копіі дыска патрэбнаму чалавеку. Калі гэтая жывёліна праслухае дыск, я скажу яму, што ягоную копію маюць у сваіх руках некаторыя вельмі ўплывовыя людзі — на той выпадак, калі ён паспрабуе падмануць мяне,— каб ён зразумеў, што гэта не блеф.

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

— Ты ведаеш уплывовых людзей?

— Вось чаму я і прытармазіў. Трэба спачатку знайсці іх. Я падумаў, што ты мог бы дапамагчы мне ў гэтым. Ты тутэйшы і можаш назваць мне якога-небудзь чалавека. Ты не ведаеш адвакатаў?

— Ніводнага. Можа, Мэйсан...

— Не, да яго больш звяртацца нельга, ніяк нельга. Ты неяк расказваў мне, як ты вазіў да некага Бэбэ Нэльсана?

— Гэта быў не адвакат. Урач. Доктар Грын.

— Дзе ён жыве?

— У другім канцы горада.

— Паедзем туды.

— Док Грын здасць цябе адразу ж,— запярэчыў ён.— Ён чокнуты, гэты дзед. І ўсе ягоныя наведнікі зробяць тое ж самае.

— Бэбэ ён не здаў. Паразумеліся ж неяк...

— Там быў іншы выпадак.

— Які — іншы?

— У Нэльсана былі бабкі...

— Мы днямі таксама будзем упакаваныя.

— Я не збіраюся спрачацца з табою, але хачу сказаць табе адну рэч,— суха сказаў ён.— Док Грын — не той чалавек. Я асцерагаюся і яго і ўсіх ягоных наведнікаў. Раю табе не мець з ім справы.

— Я прашу цябе, Джынкс,— сказаў я.— Няўжо ты думаеш, што я такі ідыёт, каб пусціцца ў гульню, не маючы козыра ў руцэ? Я магу даверыцца яму толькі ў пэўнай ступені. Даверыцца цалкам я магу толькі аднаму чалавеку — майму брату. Я пашлю яму адзін дыск у Нью-Йорк, у пакеце, які ён разгарне толькі тады, калі я яму скажу. Але пакуль што мне патрэбны чалавек, які б мог інфармаваць мяне аб усім, што тут адбываецца...

— Твой брат ведае, чым ты займаешся?

— Не. Я ўжо даўно паклапаціўся аб гэтым. Ральф Котэр — гэта не сапраўднае маё імя.

— А якое сапраўднае?

Я зарагатаў:

— Ты ўпаў бы мёртвым, калі б я табе сказаў.

## VIII

Ліхтары стаялі па абодвух баках вуліцы, але ніводная лямпа не гарэла..

Нарэшце мы знайшлі патрэбны нам аднапавярховы дамок. Святло ў абодвух пакоях, з кожнага боку дзвярэй, гарэла, але шторы былі апушчаны.

На прыгожым газончыку паміж домам і тратуарам стаяў слупок, да якога быў прыбіты драўляны шчыток з надпісам:

Д-р ДАРЫУС ГРЫН
ФІЛАСОФСКІ ГІД
КЛЮЧ ДА КАСМІЧНАЙ СВЯДОМАСЦІ
ПРАСТОРАВАЕ РАЗУМЕННЕ ЧАСУ
НЕ ГУБЛЯЙЦЕСЯ Ў ЛАБІРЫНЦЕ
ЦЬМЯНЫХ ДУМАК

— Я ж казаў табе, што ён чокнуты,— сказаў Джынкс.

Мы прайшлі па вымашчанай цаглінамі сцяжынцы, якая вяла да ганка. Толькі пад порцікам мы ўбачылі, што ў вялікім пакоі поўна народу. Жанчыны і мужчыны сядзелі ў крэслах, спінамі да нас. Чуўся манатонны голас, слоў разабраць я не мог.

Джынкс паглядзеў на мяне.

— Багата народу ў гэтай халупе,— прашаптаў ён.— Давай пачакаем паблізу, пакуль усе разыдуцца.

— А навошта хавацца? Ты думаеш, гэтыя людзі заўважаць нас? Усё, што нам трэба зрабіць, гэта адчыніць дзверы і ўвайсці,— сказаў я, паказваючы пальцам на другі шчыток, прымацаваны да бакавой сцяны порціка:

ПРОСЬБА НЕ КАРЫСТАЦЦА ЗВАНКОМ
У ЧАС ЛЕКЦЫЙ
АДЧЫНЯЙЦЕ ДЗВЕРЫ І ЎВАХОДЗЬЦЕ,
КАЛІ ЛАСКА!

Я адчыніў дзверы, і мы ўвайшлі. У пакоі, дзе былі адны крэслы, сядзела чалавек дзвaццаць пяць — трыццаць, а ў суседнім — сталовым — пакойчыку стаяў насупраць дошкі стары — па ўсім было відаць, доктар Грын,— у палатняным касцюме і чорным гальштуку. Твар схуднелы, як у Аўраама Лінкальна. Стары натхнёна чытаў з аркуша паперы, які трымаў у руцэ:

«...Усведамленне нашых учынкаў, такім чынам, — адзіная аснова ўпэўненасці. Наш розум — ягоны ўласны сведка. Розум бачыць у самім сабе ўсё вышэйшае за сябе самога і за ягоную крыніцу, гэтаксама як усё ніжэйшае...»

Я адчуў, што нехта паклаў мне на локаць руку, і, азірнуўшыся, убачыў побач неверагодна прыгожую дзяўчыну. Яна прыклала да вуснаў палец, каб мы маўчалі, і правяла нас у глыбіню пакоя, дзе заставалася некалькі пустых крэслаў — у апошнім радзе, каля вакна. Прапускаючы нас, яна прытулілася да сцяны, і мы на нейкі момант апынуліся настолькі побач, што мяне аж абдала ўсяго *пахам яе парфумы — пахам недзе ўжо чутым, але дзе і калі — згадаць я не мог...* Я ўгледзеўся ў дзяўчыну. На твары ў яе не было ніякага макіяжу, і таму ён здаваўся неверагодна белым. А яшчэ больш гэтую белізну падкрэслівалі гушчэзныя чорныя валасы. Неўзабаве дзяўчына адышла, і я страціў яе з поля зроку...

Стары закончыў нарэшце сваю лекцыю і паклаў аркуш на стол.

— А зараз, дарагія сябры,— сказаў ён,— я з радасцю паведамляю вам, што мы атрымалі новыя тэксты. Панна Добсан раздасць іх на выхадзе. Вывучайце іх і думайце над імі. Яшчэ я прашу вас не настойваць на тым, каб яна прымала вашыя дары. Як я вам ужо шмат разоў казаў, мы не збіраем ніякіх ахвяраванняў. Калі настане момант і мы будзем мець патрэбу ў грошах, я не пасаромеюся папрасіць іх у вас. Цяпер я толькі хачу абудзіць у вас шчыры інтарэс. А зараз, сябры мае, я прашу ў вас прабачэння: я стаміўся. Дабранач і дзякуй за тое, што вы прыйшлі...

Ён выйшаў праз бакавыя дзверы. Людзі ўсталі і рушылі да выхаду. Ніхто не гаварыў, усе стараліся не рабіць аніякага шуму. Мы з Джынксам таксама ўсталі і прайшлі ўслед за астатнімі ў вітальню. Белатварая дзяўчына з чорнымі валасамі стаяла ля дзвярэй і раздавала брашуры. Мы з Джынксам цягнуліся за астатнімі, каб апынуцца сам-насам з ёю...

— Дабранач,— сказала дзяўчына, працягваючы мне брашуру.

— Дабранач,— пачаў я, чакаючы, калі мужчына з жанчынай перад намі выйдуць на ганак.— Можна мне ўбачыць на хвіліну доктара Грына? — сказаў я, як толькі яна выйшлі.

— *Настаўнік* ніколі ні з кім не гаворыць пасля лекцыі,— ветліва адказала яна.— Ён вельмі стаміўся.

— На жаль, справа, якая прывяла мяне да яго — вельмі неадкладная,— настойваў я.— Яна мне жыццёва важная. Інакш я і падумаць не смеў бы, каб непакоіць яго. Будзьце ласкавы, папрасіце яго прыняць нас.

Павагаўшыся, яна запыталася:

— Каго я мушу рэпрэзентаваць?

— Поля Мэрфі,— нахіліў я галаву,— і майго сябра Джозэфа Стоктана. Аднак я не думаю, што нашыя імёны нешта скажуць яму.

— Я прайду да Настаўніка,— сказала яна. *Я зноў адчуў гэты пах, часцінку ягоную, яшчэ няўлоўную, але ўжо больш пазнавальную... Некалі... недзе... сад... сукенка...*

Яна і са спіны была такая ж вабная. Ногі яе, у скураных макасінах, былі аголеныя, уверсе — худыя, аднак дастаткова спакуслівыя. Відома, яна не круціла так сексуальна сцёгнамі, як Холідэй, але гэта ёй і не трэба было.

— Гэта новая,— заўважыў Джынкс.— Яе тым разам не было.

Я зрабіў яму знак маўчаць і паклаў брашуры на крэслы. Пачуўшы крокі, азірнуўся. Дзяўчына вярнулася са старым. Ён акінуў нас хуткім позіркам, але па ягоным твары нельга было сказаць, што ён сустракаў калі-небудзь Джынкса.

— Я не хацеў бы, панове, каб вы блага думалі пра мяне,— сказаў ён ціха,— але я надзвычай стомлены. Ці нельга адкласці вашую справу заўтра на раніцу?

— Паверце нам, пан Настаўнік,— адказаў я,— што калі б гэтая справа не была такая неадкладная, мы пачакалі б. Я незнаёмы вам чалавек, але, мне здаецца, вы ведаеце майго сябра...

Старыя ўгледзеўся ў Джынкса, аднак не прызнаў.

— Не прыпамінаю,— сказаў ён спакойна.— Дык у чым, панове, рэч?

*(Працяг будзе).*

